Гродна
№8 (443),
17 красавіка 2016

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# ЗНАК КРЫЖА.
## ПЕРШАЯ МАЛІТВА ХРЫСЦІЯНІНА



**"У імя Айца, і Сына, і Духа Святога. Амэн".**

*Так мы пачынаем і заканчваем нашы малітвы, магчыма, не ўсведамляючы, што знак крыжа сам па сабе з'яўляецца малітвай. Наколькі важна рабіць крыжовы жэст у паўсядзённым жыцці і які ў яго ўкладваецца сэнс?*

• працяг на с. 3

МАСТЫ
7-9 МАЯ
2016 г.

"Пакліканыя быць прыладамі Божай міласэрнасці"

XXIII
ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ
ДНІ МОЛАДЗІ
ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

ДАЛУЧАЙСЯ ДА НАС!

• Інфармацыя пра ДДМ на с. 7

### Каляндар падзей

**23 красавіка**
Успамін св. Юрыя.
Дзень імянін папы Францішка.
Молімся за нашага Пантыфіка.

**25 красавіка**
Свята св. Марка.

**26 красавіка**
Гадавіна ядзернага выбуху ў Чарнобылі ў 1986 г. Молімся за ахвяр гэтай трагедыі і аб супакоі ў свеце.

**1 мая**
1-ая нядзеля месяца. Распачацце маёвага набажэнства. Заахвочваем да малітвы ў касцёлах, капліцах і каля прыдарожных крыжаў. Малітва ў інтэнцыі людзей працы. У дыяцэзіі Дзень маці. Молімся ў інтэнцыі жывых і памерлых матуль.

### Запрашаем!

**Праграмы каталіцкай рэдакцыі:**

**"Голас Евангелля"**
Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.
**Кожную нядзелю ў 8.00** запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.
**Гродна 96,9 FM**
**Свіслач 100.8 FM**

**"Сімвал веры"**
Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале"Беларусь-4"
**ў 1-ы аўторак месяца ў 19.45, паўтор – у сераду ў 9.00.**

### Ружанцовыя інтэнцыі:

**Красавік**

Падзяка за 25-годдзе кіравання дыяцэзіяй Яго Эксцэленцыяй ксяндзом біскупам Аляксандрам Кашкевічам.

Аб Божых дарах і ласках для нашага пастыра.

Аб узрастанні духоўнай еднасці паміж біскупам дыяцэзіі і святарамі, святарамі і ўсімі вернікамі.

### Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

**Якая тэматыка працы парафіяльных рэлігійных груп была б для Вас цікавай?**

- дыскусіі на тэму найбольш актуальных праблем у Касцёле
- рэлігійная адукацыя, між іншым, у сферы Святога Пісання
- паглыбленне свайго рэлігійнага жыцця
- пашырэнне апостальства сярод занядбаных рэлігійна і маральна парафіян
- правядзенне акцый хрысціянскай міласэрнасці
- цяжка сказаць

**выкажыся**



**"Выкананне ўчынкаў міласэрнасці з'яўляецца ладам жыцця хрысціяніна"- Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**IV ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Ян 10, 27–30**

Езус сказаў: “Авечкі Мае слухаюць голасу Майго, і Я ведаю іх, і яны ідуць за Мною. І Я даю ім вечнае жыццё навекі, і яны не загінуць ніколі, і ніхто не вырве іх з рук Маіх. Айцец Мой, які даў Мне іх, большы за ўсіх. І ніхто не можа вырваць іх з рукі Айца Майго. Я і Айцец – адно”.

### НАШ ПАН І ПАСТЫР

Спосаб маўлення Пана Езуса зусім не адпавядае нашаму сённяшняму “інфармацыйнаму” часу. Тыя, хто жыў у часы Езуса, штодзённа бачылі статкі авечак, якія пасвіліся на палях, прыглядаліся да працы пастухоў, бачылі іх клопат. Прыпавесці Езуса былі канкрэтнымі каляровымі вобразамі, якія дапамагалі слухачам наблізіцца да ісцін, недасягальных чалавечаму розуму. Сёння, у эпоху інфарматыкі, камп’ютараў і ўсё большых тэхнічных магчымасцей, якія даступны чалавеку, мы рэдка сустрэнем пастуха са статкам. Мы нават не здагадваемся, як выглядае яго жыццё. Мы не зразумеем ні неспакою пра згубленую авечку, ні, тым больш, пастарскай радасці ад яе адшукання. Цяжкасці ў чытанні і разуменні Евангелля існуюць не толькі з-за недахопу паралелей з рэчаіснасцю, але і з-за бар’ераў, збудаваных нашым захапленнем веліччу чалавека і яго тэхнічнымі вынаходніцтвамі. Дзесьці за гэтым захапленнем хаваецца звычайная пыха...

А Евангелле ў Нядзелю Добрага Пастыра прыгадвае, што ў нашым існаванні мы не адны, не мы гаспадары свету. Над намі ёсць Езус – найлепшы Пастыр – і Айцец, які ажыццяўляе абсалютную ўладу над усім, што стварыў. Ніхто не можа гэтага змяніць, бо ніхто не мае большай улады. А яе магутнасць мы бачым у таямніцы ўваскрасення. Яна здольна зламаць сцены гробу, разарваць путы смерці. Ніхто і нішто яе не пераможа! Ніхто не здолее вырваць нас з-пад пастарскай апекі Езуса і айцоўскай улады Бога. Хіба толькі чалавек сам будзе ўцякаць з гэтай аўчарні і захоча жыць без Бога і Яго любові.

**V ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Ян 13, 31–35**

Калі Юда выйшаў з Вячэрніка, Езус сказаў: “Цяпер услаўлены Сын Чалавечы, а Бог услаўлены ў Ім. Калі Бог уславіўся ў Ім, то і Бог уславіць Яго ў сабе, і хутка ўславіць Яго. Дзеці, яшчэ крыху Я буду з вамі. Новую запаведзь даю вам, каб вы любілі адзін аднаго. Як Я палюбіў вас, так і вы любіце адзін аднаго. Па гэтым усе пазнаюць, што вы Мае вучні, калі будзеце мець любоў адзін да аднаго”.

### ТУТ МЫ ЗНАХОДЗІМ ЕЗУСА

Вячэрнік – гэта незвычайнае месца. Там столькі здарылася! У Вячэрніку Езус абмыў ногі вучням. Там адбылася іх апошняя “нармальная” сустрэча. Пазней яны ўбачаць Яго здалёк падчас мукі і на крыжы. Пасля ўваскрасення Езус сустрэнецца з імі ў тым самым месцы, але зусім па-іншаму. У Вячэрніку была ўстаноўлена Эўхарыстыя, а з ёй – і сакрамант святарства. Тут адразу ж пасля ўваскрасення Апосталы атрымалі ўладу адпушчэння грахоў. Св. Тамаш меў магчымасць пераканацца ў праўдзе Уваскрослага Езуса, а нам з Вячэрніка заўсёды чуюцца поўныя надзеі Хрыстовыя словы: “Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў”. Гэтае месца стала нібы першым касцёлам. У Вячэрніку збіраліся на малітву Апосталы з Марыяй. Урэшце рэшт, гэта тут, у Вячэрніку, адбылося Спасланне Святога Духа, які няспынна напаўняе Касцёл Божай моцай. Дададзім да гэтага словы Збаўцы з сённяшняга Евангелля, якія таксама былі прамоўлены ў Вячэрніку: “Новую запаведзь даю вам, каб вы любілі адзін аднаго. Як Я палюбіў вас, так і вы любіце адзін аднаго”.

Сёння кожная наша святыня з’яўляецца Вячэрнікам, бо ў кожным касцёле мы сустракаем Уваскрослага Хрыста. Тут Ён вучыць нас Словам, узмацняе Целам і напаўняе Духам.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Запрасіць Езуса ў сваё жыццё



**СЛОВА РЭДАКТАРА**
*Кс. Павел Салабуда*

***Розныя сустрэчы прыносяць нам мноства розных эмоцый. Часам здараюцца сустрэчы, на якія нам больш ніколі не захочацца пайсці, а бываюць такія, якія мы з задавальненнем яшчэ неадначы паўтарылі б. Сярод разнастайных сустрэч менавіта сустрэча з Богам становіцца для многіх хрысціян самай важнай. Адкрываючы сваё сэрцы, мы сустракаемся з Езусам, а гэта заўсёды штосьці выключнае. У гэтыя велікодныя дні мы часта чуем у касцёлах, як уваскрослы Хрыстос аб’яўляецца сваім вучням, жанчынам, прыходзячы да іх у розных сітуацыях. Ён уваходзіць і ў жыццё кожнага з нас, не пакідае нас адных. Хрыстос чакае не толькі ў святыні, Ён уваходзіць у нашу штодзённасць, справы, клопаты і абавязкі. Мы павінны ўсвядоміць, што Уваскрослы выходзіць за дзверы касцёлаў і капліц, прысутнічае не толькі ў табернакулюме, але перш за ўсё там, дзе прысутнічае сам чалавек.***

Разважаючы над велікодным пасланнем, мы становімся сведкамі цуду ўваскрасення нашага жыцця, цуду прысутнасці Езуса ў нас саміх. Варта адказаць самім сабе на асноўнае пытанне: якім чынам Пан прысутнічае ў маім жыцці? Не шукайма адказу ў разумных кнігах ці ў каго-сьці іншага. Давайце проста паглянем на сваё жыццё – і мы заўважым Яго прысутнасць! Тады нашае сэрца перАўтворыцца ў асаблівы Божы дом. Менавіта Бог дапамагае нам у складаных жыццёвых сітуацыях, кажа, што добра, а што дрэнна, менавіта дзякуючы Яму, мы не губляемся. Праз малітву і сакраментальнае жыццё мы адчуваем Божую падтрымку, Яго блаславенне. Калі такім чынам мы заўважаем прысутнасць Езуса Хрыста на дарозе нашага жыцця, то, нягледзячы на цяжкасці, засноўваем на Ім нашу надзею. Дарога Божага люду праз выпрабаванні веры і цяжкасці пілігрымавання, праз галгофу людскога жыцця заўсёды вядзе да надзеі Уваскрасення. Прысутнасць Езуса дазваляе нам яшчэ больш палюбіць сваё жыццё, бо найперш менавіта там мы можам адчуць Яго прысутнасць.

Якім вялікім дарам з’яўляецца прысутнасць Езуса ў Касцёле, у Эўхарыстыі, у іншых сакрамантах, а таксама ў людзях добрай волі. Бог ніколі нас не пакідае. Ён асаблівым чынам прысутнічае сярод нас праз паслугу біскупа Аляксандра Кашкевіча, які адзначае 25-ю гадавіну Езусавага апостальства ў нашым мясцовым Касцёле, прысутнічае ў дыяцэзіі, якая святкуе 25-годдзе свайго ўтварэння папам Янам Паўлам ІІ.

**Ніжэй кожны з Вас, дарагія Чытачы, можа пазнаёміцца з планам святкавання 25-годдзя біскупскай сакры нашага ардынарыя і заснавання Гродзенскай дыяцэзіі. У наступных нумарах газеты мы прысвецім больш старонак гэтаму цудоўнаму юбілею прысутнасці Бога на нашай зямлі, а сёння прапануем Вам паспрабаваць яшчэ раз запрасіць Езуса ў сваё жыццё, каб Ён застаўся там назаўсёды.**

## ЭЎХАРЫСТЫЯ – ШКОЛА МІЛАСЭРНАСЦІ

# ЮБІЛЕЙ 25-ГОДДЗЯ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

## ГРОДНА, 24 – 26 МАЯ 2016 ГОДА

## ПРАГРАМА ЭЎХАРЫСТЫЧНАГА КАНГРЭСУ

### 24.05 – АЎТОРАК

**15.30 - прывітанне ўдзельнікаў і канферэнцыя І** *(зала Яна Паўла ІІ, Вышэйшая духоўная семінарыя)*
**19.00 - святая Імша** *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**20.15 - эўхарыстычная адарацыя** *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*

### 25.05 – СЕРАДА

**09.30 - эўхарыстычная адарацыя і ранішняя малітва** *(касцёл Адшукання Святога Крыжа – Пабернардынскі)*
**10.00 - канферэнцыя ІІ** *(касцёл Адшукання Святога Крыжа – Пабернардынскі)*
**12.00 - святая Імша** *(касцёл Адшукання Святога Крыжа – Пабернардынскі)*
**16.00 - канферэнцыя ІІІ** *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**17.15 - набажэнства да Найсвяцейшай Панны Марыі** *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**20.00 - канцэрт касцёльных хораў** *(Гарадскі дом культуры, вул. Дзяржынскага, 1)*
**- вечар праслаўлення для моладзі** *(пляц пры касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля на Дзевятоўцы)*

### 26.05 – ЧАЦВЕР

**09.30 - эўхарыстычная адарацыя і ранішняя малітва** *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**10.00 - канферэнцыя IV** *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**12.00 - падсумаванне кангрэсу** *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)*
**18.00 - святая Імша** *(катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя)* **і эўхарыстычная працэсія па вуліцах горада**

# ЗНАК КРЫЖА.
## ПЕРШАЯ МАЛІТВА ХРЫСЦІЯНІНА



● працяг са с. 1

### ШТО АЗНАЧАЕ КРЫЖОВЫ ЗНАК

Знак крыжа – гэта маўклівае, але ў той жа час гучнае, бо адкрытае, вызнанне веры ў Адзінасутную і Непадзельную Тройцу: Бога Айца, Богачалавека Езуса Хрыста і Духа Святога. Крыжовы жэст сведчыць аб тым, што Сын Божы збавіў сваім жыццём род чалавечы ад граху і вечнай смерці. Здзяйсняючы яго, чалавек выказвае сваю прыналежнасць да Хрыста, а таксама да адзінства хрысціян, адкупленых Крыжам.

Перахрысціўшыся, мы ўзносім да Творцы ціхую малітву душы. Гэта выраз любові і даверу. Малітоўны жэст настройвае чалавека на супрацоўніцтва з Божай ласкай, а таксама абараняе яго ад дзеяння злых духаў.

Знакам крыжа адкрываецца брама, праз якую на вернікаў праліваецца ласка Святога Духа. Яна пераўтварае ў душах зямное ў нябеснае, звяргае грэх, перамагае смерць і нішчыць нябачныя воку перашкоды, якія адлучаюць ад Бога.

Як пісаў Бенедыкт XVI, знак крыжа з'яўляецца "пацвярджэннем і паўторным прыняццем нашага хросту". Таму кожны раз, перахрысціўшыся, мы абнаўляем абяцанні хросту.

Крыжовы знак нагадвае нам аб прабачэнні грахоў і велічы даброт, прыгатаваных Укрыжаваным у Нябесным Валадарстве. Гэта сведчанне бясконцай міласэрнасці Хрыста да чалавецтва, а разам з тым і напамін аб доўгу любові кожнага чалавека да Бога і адзін да аднаго.

### КАЛІ МОЖНА І ТРЭБА ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ КРЫЖОВЫ ЖЭСТ

Звычай здзяйсняць знак крыжа бярэ пачатак яшчэ з апостальскіх часоў. Яго ўстанавілі і перадалі вернікам найбліжэйшыя вучні Езуса. Каля III ст. традыцыя глыбока ўкаранілася ў людское жыццё.

Да сённяшняга дня хрысціяне робяць крыжовы знак, калі ўстаюць з ложка і кладуцца спаць, уваходзяць і выходзяць са святыні, чытаюць малітвы. Нашы продкі, напрыклад, здзяйснялі крыжовы жэст, калі сеялі і збіралі ўраджай, перад трапезай і пасля яе, калі перажывалі цяжкасці або адпраўляліся ў далёкі шлях.

Яго робяць на ўсім, што звязана з паўсядзённымі справамі і клопатамі. Галоўнае, каб гэта было дарэчна і здзяйснялася з глыбокай пашанай і верай. Такім чынам, гаспадыня можа благаслаўляць прадукты, з якіх будзе гатаваць ежу, а кіроўца – транспарт, на якім павязе пасажыраў. Праз сімвалічны жэст мы звяртаемся да Бога з просьбай, каб Ён нас падтрымаў і быў побач.

Знакам крыжа можна пазначаць і чалавека. Галоўнае, кіравацца пры гэтым пачуццём любові да бліжняга. Неабходна памятаць, што знак крыжа мае вялікую сілу, бо асвечаны Найсвяцейшай Крывёю Езуса. І калі мы благаслаўляем чалавека, то на ім гэты крыж застаецца. На вочы мы гэтага не бачым, але нячыстая сіла ўсё адчувае і баіцца наблізіцца да чалавека. Таму вельмі важна пазначаць знакам крыжа сваіх родных, блізкіх, знаёмых.

Хрысціянін абавязкова перахрысціцца перад пачаткам усякай справы і пасля яе заканчэння. Праз гэта ён просіць у Бога ў Тройцы Адзінага ўмацаваць сілай Хрыста сваё цела, розум і сэрца, а пасля – выказвае падзяку за натхненне і дапамогу.

Знак крыжа рэкамендуецца рабіць, калі хрысціянін робіць нешта ўпершыню. Гэтым самым ён выказвае давер Усявышняму і аддае свой розум і сэрца ў Яго рукі. Напрыклад, чалавек вучыцца плаваць або ідзе на новае месца працы.

Здзяйсняць на сабе знак крыжа неабходна пры набліжэнні да ўсяго святога: прыкладанні да крыжа, абразоў, святых мошчаў. Цалкам натуральна праз крыжовы жэст выказваць знак паважнага стаўлення да святыні – Божага Дома, дзе здзяйсняюцца збаўчыя сакраманты. Таму, праходзячы ці праязджаючы паблізу храма, хрысціяне з пачуццям доўгу павінны імкнуцца аддаць пашану прысутнаму ў гэтым месцы Богу.

### ЯК ПРАВІЛЬНА РАБІЦЬ ЗНАК КРЫЖА

Сярод нас ёсць тыя, хто саромеецца крыжовага знаку: робіць яго на верхняй частцы сваіх грудзей ды і тое ледзь заўважна. Варта ўзгадаць, што пра людзей, якія бянтэжацца вызнання сваёй веры, Гасподзь сказаў: "Хто пасаромеецца Мяне і Маіх слоў у родзе гэтым распусным і грэшным, таго пасаромеецца і Сын Чалавечы, калі прыйдзе ў славе Айца Свайго са святымі анёламі" (Мк 8, 38).

Многія здзяйсняюць крыжовы жэст мітусліва і няўважліва. Праз такую нядбайнасць выказваецца непачцівасць да Бога. Пра людзей, якія размашыста махаюць рукою ў паветры, святы Ян Залатавуст сказаў, што іх дзеянням радуюцца дэманы. Насупраць, калі знак крыжа робіцца павольна, з пашанай, гэта палохае нячыстага і прыцягвае Боскую ласку. Таму знак крыжа неабходна здзяйсняць з пакорай, усведамленнем святой і вялікай справы, з жывой верай ва Укрыжаванага і надзеяй на Яго міласэрнасць.

Крыжовы жэст робіцца пяццю пальцамі адкрытай далоні ў памяць аб пяці ранах на целе Хрыста. Паказваючы яго на сабе, вернік успамінае распяцце Езуса і выказвае гатоўнасць прыняць свой уласны крыж і рушыць услед за Панам.

Знак крыжа можна рабіць і ў думках. Адзін з вялікіх настаўнікаў Царквы Яфрэм Сірын вучыць: "І не рукою толькі ўскладвай на сябе знак крыжа, але і ў думках пазначай ім усякі свой занятак, і ўваход свой, і зыход свой ва ўсякі час, і сядзенне сваё, і ўставанне, і пасцель сваю, і любое служэнне… Бо вельмі моцная гэта зброя, і ніхто не можа ніколі зрабіць табе шкоды, калі ты ім абаронены".

**Пазначаючы сябе крыжовым жэстам, вернік атрымлівае магчымасць здзяйсняць вялікія справы. Крыжовы знак дае душы крэпасць і мудрасць, сілу перамагаць зло і тварыць дабро. Памятайма аб гэтым!**

# УЧЫНАК ДЛЯ ДУШЫ БЛІЖНЯГА. ВУЧЫЦЬ ТЫХ, ХТО НЕ ВЕДАЕ




НОВЫ ПРАЕКТ



Няма ў свеце чалавека, якому б ставала ведаў. Можна быць трохі дасведчаным ва ўсім або ведаць усё пра нешта канкрэтнае. На працягу жыцця чалавек імкнецца папоўніць багаж сваіх кампетэнцый, дазнацца пра штосьці новае, бо свет, у якім ён жыве, вялікі і складаны, а часам нават небяспечны.

Згодна з Катэхізісам Каталіцкага Касцёла, вернік павінен дзяліцца сваімі ведамі з іншымі людзьмі. Другі ўчынак міласэрнасці для душы бліжняга – "вучыць тых, хто не ведае". Што тут маецца на ўвазе? Веды, прафесійны досвед, практычныя навыкі?

Гаворка ідзе, перш за ўсё, пра навык духоўнага жыцця. Павучаць па-хрысціянску – значыць, адважна і нястомна раскрываць схаваныя і замаскаваныя пласты зла і граху, а таксама адкрываць людзей на Божую любоў і міласэрнасць. Вера патрабуе ад нас, каб, становячыся перад іншым чалавекам, мы жадалі яго дабра, хацелі бачыць яго шчаслівым, напоўненым радасцю і супакоем.

Словамі "тыя, хто не ведае" ў грэчаскай мове акрэсліваюць людзей, якія не могуць выказацца, прычым маецца на ўвазе не толькі мова, але і ўсе іншыя спосабы выражэння сябе і ўстанаўлення кантакту з ішымі. У другім разуменні гэтае паняцце азначае таго, хто стаіць на пачатку дарогі і чакае, што хтосьці яго правядзе. Стаяць перад Богам як той, хто не ведае, – вось належная пастава хрысціяніна.

Парадаксальна, але аказваецца, што, каб павучаць, трэба спачатку самому стаць тым, хто не ведае, гэта значыць, маленькім, найменшым – чалавекам, які будуе сваё жыццё не паводле ўласных капрызаў, а ўважліва слухаючы, што яму гаворыць Бог.

Сёння адказам на надзённы і ўвесь час актуальны выклік павучання тых, хто не ведае, з'яўляецца распачацце справы евангелізацыі, якая павінна абуджаць веру і служыць яе развіццю, весці да навяртання, спрыяць будаванню Касцёла і дапамагаць людзям дасягнуць збаўлення.

Як належыць павучаць? Аналагічна, як і ў сітуацыі з настаўленнем грэшнікаў: далікатна, ясна, тактоўна. Той, хто павучае, не можа грашыць пыхай і ганарлівасцю: "Я ведаю, што лепш, таму слухай мяне". Кропля пакорлівасці, асабліва ў такі далікатны момант, як павучанне брата, нікому яшчэ не пашкодзіла. Учынак міласэрнасці павінен здзяйсняцца ў мяккай форме, у атмасферы дабрыні і клопату. Важна мець цярплівасць, бо іншы чалавек не адразу ўсё можа ўспрыняць. Трэба імкнуцца коратка даносіць сваю думку. У адваротным выпадку лёгка заблытацца і згубіць саму сутнасць навучання.

Вучыць тых, хто не ведае, трэба вельмі асцярожна. Незаўважна можна трапіць у пастку залежнасці да іншага чалавека: захапіцца павучаннем і ўскласці на сябе адказнасць за бліжняга на ўсё жыццё. Таму трэба памятаць, што вучыць – значыць прапанаваць іншую кропку гледжання, паказаць шлях, згодны з Божымі наказамі, але ніяк не імкнуцца прымаць рашэнне за чалавека, да якога звяртаемся.

Павучанне можа здзяйсняцца як у вуснай форме, так і ў пісьмовай, можа адбывацца пры дапамозе любога сродка перадачы інфармацыі ці непасрэдна.

Прымаць павучанні, роўна як і вучыць тых, хто не ведае, – гэта не толькі праяўленне чалавечых ведаў і мудрасці, але і Божы дар. Таму кожны раз перад тым, як здзейсніць учынак міласэрнасці, варта з даверам звярнуцца да Святога Духа.

Узнагародай будзе душэўны супакой і прыемнае ўсведамленне таго, што мы былі камусьці патрэбнымі. Добра, калі гэта прынесла карысць у жыцці бліжняга. Мажліва, і перамены. Чым шырэй мы адкрыемся на чалавека, тым большы будзе плён. Як сцвярджаецца ў Кнізе прарока Даніэля, "тыя, што многіх прывялі да праўды, як зоркі – праз вякі і назаўсёды" (Дан 12, 3б). Духоўнае і маральнае ўзбагачэнне спрыяе ўзрастанню дабра ва ўсёй супольнасці і грамадстве.

***Ангеліна Пакачайла***



**А. д-р Андрэй Шчупал CSsR**

*Кожны хрысціянін на падставе сакрамантаў святога хросту і канфірмацыі абавязаны навучаць, дзяліцца сваёй верай, словам, прыкладам хрысціянскага жыцця ў сваім асяроддзі. Гэтае навучанне асабліва важнае ў адносінах да рэлігійных невукаў і тых, хто духоўна згубіўся. Спачатку бацькі павінны навучаць сваіх дзяцей фундаментальным праўдам веры, пацвярджаючы іх сваім штодзённым жыццём. Такую ж ролю выконваюць бабулі і дзядулі, хросныя бацькі. Аб духоўным і рэлігійным жыцці клапоцяцца таксама катэхеты. Надзвычай важную ролю адыгрывае навучанне ў школе і ўніверсітэце, якое праводзяць прафесійныя педагогі.*

**5 прычын, каб здзейсніць учынак міласэрнасці:**

*1. Кожны чалавек пакліканы да годнага выкарыстання дару жыцця.*

*2. Не трэба глядзець на ўсіх з падазронасцю, але цнота разважлівасці патрабуецца.*

*3. Той, хто не ведае, – гэта асоба, якая чагосьці не ўсведамляе і патрабуе, каб хтосьці дапамог ёй разабрацца.*

*4. Міласэрны хрысціянін не можа быць скупым на мудрасць.*

*5. Быць міласэрным да іншых – значыць, даверыцца Міласэрнаму.*

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

**Папа Францішак**



*На крыжы Езус адкрывае міласэрнасці Айца грэх свету, а разам з ім усе нашыя грахі. Ніхто і нішто не выключаны з гэтай ахвярнай малітвы Хрыста. Гэта азначае, што мы не павінны баяцца прызнаць сябе грэшнікамі і вызнаць сваю грэшнасць, паколькі кожны грэх быў забраны Сынам на крыж. А калі мы, будучы спакушанымі, вызнаём гэты грэх, даваяраючыся Хрысту, то можам быць упэўнены, што ён нам прабачаны. Сакрамант паяднання дэманструе кожнаму моц прабачэння, якая вынікае з крыжа і аднаўляе ў нашым жыцці ласку міласэрнасці, якой для нас быў Езус! Мы не павінны баяцца нашай марнасці: моц любові Укрыжаванага не ведае перашкод і ніколі не заканчваецца.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі Святога Айца, 06.04.2016*

**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**



*Што азначае бязмежная Божая міласэрнасць для нас, людзей ужо XXI стагоддзя? Тое, што яна неабмежаваная і ёю можа карыстацца кожны чалавек. Калі хтосьці багаты, то сваім багаццем ён можа дзяліцца з кім толькі захоча. Так і з Богам. Ён імкнецца дзяліцца з намі ласкай сваёй міласэрнасці. Калі хтосьці захоча зачэрпнуць з крыніцы Божай міласэрнасці, то можа гэта ўчыніць заўсёды. Ёсць, аднак, адна ўмова. Неабходна захацець. Езус казаў св. Фаўстыне Кавальскай, што перш чым прыйдзе справядлівы суддзя, Ён адчыняе дзверы міласэрнасці. Хто не жадае прайсці праз іх, той павінен будзе прайсці праз дзверы справядлівасці.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас св. Імшы ў мінскай парафіі МБ Ружанцовай у нядзелю Божай міласэрнасці*

**Кс. бп Аляксандр Кашкевіч**



*Жыццё з'яўляецца самым вялікім дарам, які Бог даў чалавеку, і чалавек павінен ставіцца да яго як да дару – з удзячнасцю, пашанай, радасцю, гатоўнасцю да яго прыняцця і з вялікім клопатам. Прыкладам прыняцця дару жыцця з'яўляецца Панна Марыя, якая падпарадкавала сваю волю Божай, свае планы – планам Створцы, свае намеры – намерам Бога.*

*Усё, што сапраўды з'яўляецца вялікім у свеце, можна выканаць толькі тады, калі воля чалавека адказвае словам "так" волі Бога. Толькі згода волі чалавека з воляй Бога можа здзяйсняць цуды і дае шчасце, як у асабістым жыцці, так і ў жыцці сем'яў і цэлых супольнасцей.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай ва ўрачыстасць Звеставання Пана*




◆ *Папа абвясціў збор грошай на карысць ахвяр канфлікту ва Украіне. Ён павінен адбыцца ў нядзелю 24 красавіка ва ўсіх каталіцкіх касцёлах Еўропы. Пантыфік абвясціў аб гэтым рашэнні ў кароткай прамове перад малітвай "Regina caeli" пад канец святой Імшы, якую адправіў на плошчы св. Пятра ў Нядзелю Божай міласэрнасці. "Я заахвочваю вернікаў далучацца да гэтай ініцыятывы праз свой шчодры ўклад. Гэты акт міласэрнасці павінен не толькі аблегчыць матэрыяльныя цярпенні, але таксама выразіць блізкасць і салідарнасць маю асабістую і ўсяго Касцёла адносна Украіны", – сказаў Папа.*

◆ *На тэрыторыі Фацімскага санктуарыя на працягу 2017 года плануецца больш за 150 розных мерапрыемстваў, прымеркаваных да 100-годдзя марыйных аб'яўленняў. Як паведаміў рэктар санктуарыя Маці Божай Ружанцовай у Фаціме а. Карлас Кабэчыньяс, ініцыятывы маюць як рэлігійны, так і культурны характар. Сярод іх – кангрэсы, калоквіумы, спектаклі, а таксама музычныя канцэрты. Розныя акцыі ўжо адбываюцца на працягу некалькіх месяцаў. Апошнім разам шэсць партугальскіх кампазітараў падрыхтавалі твор, заснаваны на ўспамінах с. Люцыі душ Сантуш, якая была сярод дзяцей-візіянераў падчас Фацімскіх аб'яўленняў.*

◆ *Калючка з цярновага вянка, што захоўваецца ў рэлікварыі ў італьянскім катэдральным саборы, крывацочыць кожны раз, калі Вялікая Пятніца прыпадае на 25 сакавіка, урачыстасць Звеставання Пана. Цуд назіраюць з 1633 года. Так адбылося і ў гэтым годзе. Навуковая камісія канстатавала з'яўленне трох "сферычных утварэнняў, гем" на цярноўніку. Спецыялісты таксама ўбачылі "рэшткі надзвычайнай з'явы", якую назіралі ў 2005 годзе. Менавіта тады цуд адбыўся ў апошні раз. У наступны раз ён паўторыцца толькі ў 2157 годзе.*

◆ *"Дастаткова быць карыстальнікам тэлефона з сістэмай андроід і мець у сэрцы жаданне дапамагчы дзецям, маці якіх збіраюцца зрабіць аборт", – кажа Ганна Сухы з Фонду маленькіх ножак, якая на сёлетні Дзень святасці жыцця падрыхтавала мабільны дадатак "pro-life". "Усынаві жыццё" – гэта ідэальнае рашэнне, якое ў любым месяцы і ў любы час дазваляе здзейсніць духоўнае ўсынаўленне зачатага дзіцяці. Дадатак створаны для таго, каб паказаць, як выглядае прэнатальнае развіццё.*

◆ *Падчас СДМ "Карытас" будзе адказваць за зоны грамадскага харчавання і мабільныя харчавальныя пункты. "Яны будуць паўтарацца, будуць добра прыкметнымі і размесцяцца ў раёне галоўных рэлігійных урачыстасцей", – сцвярджае Кацярына Рыбіцкая, кансультант "Карытас" Кракаўскай архідыяцэзіі. У склад зон увойдуць пункты выдачы як цёплых пасілкаў, так і сухога правіянту. Будуць там і свайго роду кавярні – месцы, дзе пілігрымы змогуць хутка выпіць каву з пірожным.*

*credo-ua.org; gosc.pl; niedziela.pl*

**Ангеліна Пакачайла**



# СЯСТРА МАЛГАЖАТА – АДЗІНАЯ АЦАЛЕЛАЯ НАЗАРЭТАНКА З НАВАГРУДКА

Езус меў 12 найбліжэйшых вучняў, разам з якімі дзяліў хлеб, час, радасці і перажыванні. Усе яны загінулі мучаніцкай смерцю, апрача аднаго – апостала Яна. Падобная гісторыя паўтарылася ў недалёкім мінулым на беларускай зямлі. 11 сясцёр з Навагрудка як і 11 апосталаў пайшлі за Хрыстом, выпіўшы келіх цярпення. Жывая засталася толькі адна... Людвіка Якубаўна Банась, у манастве сястра Марыя Малгажата ад Сэрца Езуса, канаючага ў Аліўным Садзе.

## ЗА ХРЫСТОМ ДА КАНЦА

У канцы ліпеня 1943 года немцы выклікалі супольнасць сясцёр у камісарыят. Настаяцельніца разумела, што адна сястра павінна застацца ў кляштары. Але каторая з іх? Пасля цяжкіх разважанняў яна звярнулася да сястры Малгажаты, ведаючы, што тая зможа годна прыняць на сябе ўсё, што пашле Божы Провід. На світанні 1 жніўня 11 сясцёр былі расстраляны...

Некалькі дзён і начэй сястра Малгажата намагалася зразумець Божую волю. Паступова сястра ўсвядоміла, што Назарэт павінен існаваць дзеля Бога, які знаходзіцца ў Найсвяцейшым Сакраманце ў Белай Фары, дзеля людзей, якія тут жывуць, дзеля расстраляных сясцёр, якія яна не можа пакінуць на забыццё ў навагрудскім лесе. Угледзячыся ў чырвоную лямпачку каля табернакулюма, сястра цвёрда вырашыла: калі Езус знаходзіцца тут разам з ёю, то і яна, нягледзячы ні на што, таксама не пакіне Яго.

## КРОПЛІ ДАБРЫНІ І СПАГАДЛІВАСЦІ

Доўгі час сястра Малгажата жыла ў закрыстыі фарнага касцёла. Раздзяліла яе шафай, паставіла жалезны ложак, маленечкую пліту і пару шафак. Каб сагрэцца ад холаду, павесіла на сцяну дыван. Зімой налівала ў бутэльку гарачую ваду і клала на падлогу саламяны матрас. Сэрца манахіні грэла любоў Бога, які знаходзіўся побач у Найсвяцейшым Сакраманце і, як ёй думалася, раздзяляў з ёю гэтыя цяжкасці.

З гарачым болем сястра назірала за тым, як хваля атэізацыі руйнавала духоўныя каштоўнасці ў сэрцах маладых людзей. Па просьбе бацькоў, употай рыхтавала дзяцей да першых сакрамантаў. На катэхезу прыходзілі і дарослыя, заручаныя маладыя пары. Пакуль не было святара, сястра дапамагала ў арганізацыі хросту для дзяцей, клапацілася аб пахаванні для памерлых.

Сястра Малгажата ведала, што ўсё тое, што яна рабіла для людзей, было кропляй у моры. Але нават самае вялікае мора складаецца з мноства маленькіх кропель, таму пры любой магчымасці сястра далучала адну кропельку да другой.

## МАРА АБ ПРАБАШЧЫ Ў ПАРАФІІ

Праз нейкі час у Навагрудак прыбыў айцец Аляксей Вуек. Прысутнасць святара была для сястры і радасцю, і апорай. Яна магла ўдзельнічаць у святой Імшы, менш перажывала за справы, звязаныя з утрыманнем Фары. Дзякуючы святару, касцёл у Навагрудку быў афіцыйна зарэгістраваны.

Супольнае душпастарства з айцом Аляксеем трывала паўтара гады. 3-за складанай палітычнай сітуацыі святар быў вымушаны выехаць. Наступныя 10 гадоў сястра несла адказнасць не толькі за лёс Фары, але і за духоўнае жыццё парафіі. Збірала ахвяры на аплату ўсіх грашовых падаткаў, звязаных з утрыманнем касцёла, дбала пра дэкарацыі ў святыні. Парадак, чысціня і прыгажосць пры алтары належалі да яе штодзённай працы.

Сястра Малгажата не пераставала верыць, маліцца і ахвяраваць у інтэнцыі з'яўлення пробашча ў парафіі ўсе свае цяжкасці і выпрабаванні. З 17 ліпеня 1956 года абавязкі душпастара прыняў на сябе ксёндз Войцех Навачык. Радасць сястры не мела межаў. Хутка для святара было знойдзена месца жыхарства. Ксёндз вырашыў, што сястра больш не можа жыць у закрыстыі ў нечалавечых умовах, і таму адзін невялічкі пакой прызначыў для яе. Сястра змагла раз і назаўсёды забыць аб пранізлівым да шпіку касцей холадзе, які адчувала на працягу апошніх гадоў жыцця.

## АХВЯРА ДЗЕЛЯ ДАБРА МІСІІ

Нягледзячы на спрыяльныя змены, адно жаданне працягвала жыць у сэрцы сястры. Праз усё жыццё яна пранесла любоў да сваёй Кангрэгацыі. Неаднаразова ёй даводзілася стаяць перад выбарам: выехаць за мяжу ці застацца ў Навагрудку. І сястра заставалася. Гэтае рашэнне сведчыла аб свядомым і дабравольным адмаўленні ад усіх даброт, якія забяспечвала манаская супольнасць. У складаныя палітычныя часы гэта азначала пазбаўленне кантакту з сёстрамі дзеля дабра абранай місіі. Але глыбока ў сэрцы сястра цярпела.

Толькі праз 21 год манахіня ненадоўга выехала ў Польшчу на запрашэнне роднай сястры Ганны Банась. У гэты час адведала найбольшыя супольнасці сясцёр. Як сведка падзей апавядала аб мучаніцкай смерці сясцёр з Навагрудка. Цешылася з таго, што магла апрануць манаскі хабіт і разам з сёстрамі ўдзельнічаць у супольных малітвах, пасілках, адпачынках. Яшчэ больш шчаслівым быў час, праведзены разам з роднай сястрой.

## СУСТРЭЧА З СЁСТРАМІ Ў ВЕЧНАСЦІ

Пасля вяртання манахіня пачала хварэць на пнеўманію, мела галавакружэнні, боль у жываце. Пасля медыцынскіх даследаванняў у шпіталі сястры паведамілі, што ў яе недахоп страўнікавых сокаў. Толькі пазней ёй стала вядома, што ўрачы выявілі апошнюю стадыю рака.

Калі сястра Малгажата ўжо не ўставала, ксёндз Войцех прыносіў ей Камунію ў ложак. Аднойчы яна прызналася святару, што ахвяруе свае цярпенні за святароў і моладзь.

У дзень 26 красавіка, калі Касцёл успамінае Маці Божую Нястомнай Дапамогі, сястра паводзіла сябе так, нібы збіралася адысці ў вечнасць. У 21.00 папрасіла, каб каля яе ложка гучна адгаварылі Літанію да Маці Божай. Напачатку малілася разам з іншымі, а пасля закрыла вочы і ляжала спакойна. Усім здавалася, што сястра Малгажата заснула. У той момант яе душа адляцела да Бога. Насустрач ёй выйшлі адзінаццаць сясцёр...

***Паводле кнігі "Назначэнне і выбар" с. Барбары Грамады CSFN***



*Сястра Малгажата крайняя злева ў першым радзе*

**УРАЧЫСТАСЦІ Ў 50-Ю ГАДАВІНУ СМЕРЦІ С. МАЛГАЖАТЫ БАНАСЬ ПРОЙДУЦЬ У НАВАГРУДКУ**

***26 красавіка ў касцёле Перамянення Пана, з якім манахіня была звязана на працягу многіх гадоў, адбудзецца ўрачыстая святая Імша ў інтэнцыі яе хутчэйшай беатыфікацыі.***

*Праграма:*

***11.00** – кароткае апісанне жыцця Слугі Божай с. Малгажаты Банась;*

***11.30** – святая Імша, якую ўзначаліць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.*




***Так склалася, што я, узгадаваная на атэізме, выйшла замуж за паляка і прыехала жыць у Гродна. Першы касцёл, у які мне хацелася проста зазірнуць, быў Пабернардынскі. Я зайшла ўнутр. Цэлебравалася святая Імша. Надзіва, мяне не выгналі, ніхто нават коса не глянуў. Магчыма, таму што была добра прыкметная мая цяжарнасць.***

***У касцёле ўразіла ўсё: атмасфера, убранне, спакойны голас старэнькага ксяндза, людзі з уважлівымі выразамі на тварах... Напэўна, тады я ўпершыню ў жыцці спытала сябе: а ці сапраўды рэлігія такая, як нам яе прадстаўлялі на лекцыях па атэізме?***

*Тады я і падумаць не магла, што калісьці прыму каталіцкую веру, што з мужам пройдзем спецыяльны катэхетычны курс навучання, здадзім экзамен і возьмем шлюб у Фарным касцёле, што нашы дзеці прыступяць у Пабернардынскім касцёле да Першай Камуніі, і ўсёй сваёй дружнай сям'ёй мы станем парафіянамі гэтага касцёла.*

*Падчас велікоднай святой Імшы я назірала за людзьмі і разумела, што нас, розных па нацыянальнасцях, характарах, адукацыі, моцна аб'ядноўвае вера. Мы разам радаваліся Уваскрасенню Хрыста, жадалі адзін аднаму: "супакой нам усім".*

*І Бог нас пачуў! Першым, хто працягнуў руку і сказаў "Хрыстос Уваскрос!", быў ксёндз Раман. Ад нечаканасці мы разгубіліся. Вядома, адказалі як і належыць, пажадаўшы адзін аднаму ўсяго добрага. Столькі шчырасці і так нам патрэбнай душэўнасці было ў яго голасе!*

*Часы зноў нялёгкія. У свеце бушуюць войны. Хочацца спадзявацца, што наша вера, зрэшты, як і іншыя, прынясе мір на нашу грэшную зямлю.*

*Застаўшыся без працы на старасці гадоў, мы з мужам адчулі стомленасць і нейкую адзіноту. Хацелася ў цішыні пагаварыць з Богам. Гэта мы і зрабілі пасля святой Імшы ў Вялікую суботу. Парафіяне ўжо разышліся. У касцёле засталося толькі некалькі пажылых вернікаў.*

*У нядзелю нас прыйшлі павіншаваць самыя блізкія людзі. Было адчуванне вялікай радасці. І ад свята, і ад зносін.*

*Сёння ў мужа з'явілася, хай і нізкааплатная, але праца. Галоўнае, жыццё працягваецца...*

***Мы мала гаворым нашым святарам добрых слоў. Магчыма, ад сваёй сарамлівасці ці няведання, як правільна выказаць сваю падзяку. І ўсё ж... Дзякуй вялікі ўсім ксяндзам за службу, якую яны нясуць з гонарам, за дабрыню і разуменне. Тое, што вы робіце для нас – вернікаў – неацэнна. Заставайцеся ў здароўі, дарагія служыцелі каталіцкай веры!***

***Аліна Царэнка***

*Працягваем нашыя разважанні аб сакраманце пакаяння і паяднання. У трох папярэдніх артыкулах, змешчаных у “Слове Жыцця”, мы разважалі над сутнасцю сакраманту Божай міласэрнасці і абмеркавалі ўжо дзве з пяці ўмоў добрай споведзі: рахунак сумлення і жаль за грахі. Цяпер зоймемся трэцяй, чарговай умовай, абавязковай для сапраўднасці і эфектыўнасці гэтага сакраманту – цвёрдым пастанаўленнем выправіцца.*



А. д-р Андрэй Шчупал CSsR

# ЦВЁРДАЕ ПАСТАНАЎЛЕННЕ ВЫПРАВІЦЦА

Езус Хрыстус у сваім навучанні шматразова заклікаў тых, каму адпусціў грахі, каб яны ўжо больш не грашылі ў будучым. Да блудніцы Ён звярнуўся з рашучым настаўленнем: „Ідзі, і ад гэтай хвіліны ўжо не грашы” (Ян 8, 11). Кульгаваму чалавеку Ён сказаў яшчэ мацней: “Не грашы больш, каб не здарылася з табою чаго горшага” (Ян 5, 14).

Пастанаўленне выправіцца цесна звязана з жалем за грахі. Яно з’яўляецца крытэрыем якасці жалю і сапраўднасці пакаяння. Усведамленне грэшных упадкаў, уласных слабасцей і схільнасцей да злога становіцца фактарам, які мабілізуе да распачацця адпаведнай працы над сабой з той мэтай, каб ужо больш не вяртацца да здзейсненых грахоў. Цяжка ўявіць сабе такі жаль за грахі, калі няма жадання ніякіх змен у існуючых грахоўных паводзінах. У такім выпадку споведзь стала б несапраўднай ці мала эфектыўнай.

Пастанаўленне выправіцца павінна быць цвёрдым, гэта значыць здзейсненым з цвёрдай воляй не дапускаць да цяжкага граху, нават калі б прыйшлося пераадольваць вялікія цяжкасці на шляху да рэалізацыі свайго паклікання (напрыклад, пэўныя пакуты ці матэрыяльную страту). У такім выпадку не абавязкова павінна быць стопрацэнтная ўпэўненасць у дасягненні поспеху, але рашучая і цвёрдая воля перад споведдзю, каб змяніць жыццё. Калі адразу ж пасля споведзі здарыўся такі ж грахоўны ўпадак, гэта значыць, што хтосьці не меў цвёрдага пастанаўлення выправіцца альбо яго пастанаўленне было цвёрдым, але неэфектыўным. Так можа здарыцца ў выпадку грахоў, звязаных з залежнасцямі, напрыклад, алкагалізмам. Алкагалізм – стан хваробы, які патрабуе доўгага лячэння не толькі на духоўным узроўні, але і на медыцынскім. Такі пэнітэнт абавязкова павінен распачаць працу над сабой з мэтай паступовага абмежавання колькасці і частаты ўжывання алкаголю – гэтак званы метад малых крокаў. У гэтым выпадку важна таксама тое, каб пэнітэнт абавязаўся поўнасцю вызваліцца ад залежнасці і звярнуцца за адпаведнай парадай да ўрача тэрапеўта ці іншага спецыяліста ў гэтай сферы. Падобная сітуацыя назіраецца таксама ў іншых выпадках грахоў, звязаных з залежнасцямі. У такой сітуацыі пэнітэнт павінен прытрымлівацца парад спаведніка, дадзеных яму падчас споведзі.

Пастанаўленне выправіцца павінна быць таксама эфектыўным. Яно выражаецца ў распачацці рашучай працы над сабой з мэтай ліквідацыі прычын, якія прыводзяць да граху. Гэта могуць быць, між іншым: спроба паяднацца з бліжнім, пазбяганне блізкай нагоды да граху, якой можа быць іншая асоба, матэрыяльная рэч ці асяроддзе працы. Пан Езус у сваім навучанні вельмі моцнымі словамі апісвае такую рашучую паставу пазбягання нагоды да граху: “Калі спакушае цябе рука твая, адсячы яе... І калі нага твая цябе спакушае, адсячы яе... І калі вока тваё цябе спакушае, вырві яго. Лепш табе аднавокім увайсці ў Божае Валадарства, чым, маючы два вокі, быць кінутым у геену” (параўн. Мк 9, 43–48). Эфектыўнасць пастанаўлення выправіцца выражаецца таксама ў матэрыяльнай і маральнай кампенсацыі, у прыняцці адпаведных лекавых сродкаў звышнатуральнага характару, такіх як малітва, пост, самакатаванне, частае прыняцце святых сакрамантаў і да т.п.

Пастанаўленне выправіцца павінна быць таксама ўсеагульным, гэта значыць, што яно павінна ахопліваць усе смяротныя грахі, якімі грэшнік быў паранены. Нельга пастанавіць выправіцца толькі з аднаго граху, напрыклад, з п’янства, а з нячыстасці, крадзяжу, прапускання нядзельнай святой Імшы і да т.п. такога пастанаўлення не прымаць. Неабходна распрацаваць і прадставіць спаведніку падрабязны план працы над сабой адносна выкаранення асобных недахопаў і смяротных грахоў. Часта пастанаўленне выправіцца занадта расплыўчатае. Перад канцом споведзі асоба можа сказаць спаведніку, што да наступнага разу будзе грунтоўна працаваць над якімсьці канкрэтным галоўным недахопам. Таксама ў штодзённай малітве мы павінны горача прасіць Бога аб ласцы ўнутранага перамянення і аб эфектыўным выкананні прынятых пастаноў.

**Дарагі Сябар! Ты ўжо паяднаўся з Богам? Ці ведаеш Ты, які Ён – Бог, што чакае Цябе? Ён не помслівы і бяздушны суддзя, а добры, цярплівы Айцец, які Цябе любіць. Таму хутка адважся на супрацоўніцтва з Яго ласкай і ўжо сёння прымі цвёрдае пастанаўленне выправіцца і змяніць усё сваё жыццё. Я малюся за Цябе, каб з чыстым сэрцам, можа нават ужо праз многія гады жыцця ўдалечыні ад Бога, Ты разам з усім Касцёлам мог прыняць Хрыста ў сваё сэрца. Хрыстос Цябе вельмі любіць! Хрыстос Цябе даўно чакае!**





# Кс. бп Аляксандр Кашкевіч кансэкраваў касцёл Божай Міласэрнасці ў Астрыне

Урачыстая падзея адбылася ў Нядзелю Божай міласэрнасці і сабрала шмат парафіян і гасцей. Падчас св. Імшы гродзенскі ардынарый дзякаваў Богу за ласкі, атрыманыя ў гэтай святыні, і прасіў аб шчодрых дарах для ўсёй парафіяльнай супольнасці і дабрадзеяў парафіі.

Касцёл у Астрыне быў пабудаваны ў 1996 г., тады ж быў асвечаны і стаў месцам малітвы вернікаў. Праз 20 гадоў адбыўся яшчэ адзін этап – кансэкрацыя, якая з’яўляецца дапаўненнем асвячэння.









*паводле catholic.by*

## З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ

### wiara.pl

### Папа здзейсніў мару хворай дзяўчынкі

*Надзвычай кранальная падзея адбылася на агульнай аўдыенцыі.*

*Папа Францішак сустрэўся з пяцігадовай дзяўчынкай з ЗША, якая ў выніку рэдкай генетычнай хваробы ў хуткім часе поўнасцю страціць зрок і слых. Трохі раней яна прызналася бацькам, што больш за ўсё, пакуль бачыць і чуе, яна хацела б пабываць у Ватыкане і сустрэцца са Святым Айцом.*

*Францішак усклаў далонь на вочы хворай і, блаславіўшы, хвіліну маліўся над ёю. Затым, сам будучы вельмі ўзрушаным, размаўляў з дзяўчынкай і яе ўсхваляванымі бацькамі. Ліза падарыла Пантыфіку скрыначку з кавалкам метэарыта, які ўпаў у Агаё. Святы Айцец упэўніў, што будзе памятаць аб ёй і яе блізкіх у штодзённай малітве.*

### Radio Vaticana

### Беларуская выстава ў Ватыкане

*Выстава сакральнага мастацтва з Беларусі стане першай у гісторыі такога роду ініцыятывай з Усходняй Еўропы ў Ватыканскіх музеях.*

*Увазе наведвальнікаў Ватыканскіх музеяў будуць прадстаўлены сакральныя выявы, створаныя ў розныя гістарычныя перыяды, найбольш значныя творы беларускай мастацкай традыцыі.*

*Улічваючы тое, што Беларусь знаходзіцца на мяжы паміж праваслаўнай і каталіцкай часткамі Еўропы, выстава прадэманструе, наколькі заходняе хрысціянства з’яўляецца падобным, і, у той жа час, адметным ад усходняга. Падзея будзе насіць экуменічны характар.*

### Catholic.by

Рыма-Каталіцкі Касцёл у Беларусі

### Урачыстая інсталяцыя Гродзенскага капітула

*Ва ўрачыстасць Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара, у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне адбудзецца ўрачыстая інсталяцыя Гродзенскага капітула. Канонікі капітула пачнуць у гэты дзень сваё служэнне.*

*10 сакавіка ў будынку гродзенскай курыі былі агучаны прозвішчы святароў, прызначаных канонікамі катэдральнага капітула Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Казіміра Каралевіча. Сярод іх восем грэміяльных і дзевяць ганаровых канонікаў. Усім былі ўручаны дэкрэты.*

*На ўрачыстую інсталяцыю капітула, якая будзе першай у гісторыі Гродзенскай дыяцэзіі, усіх жадаючых шчыра запрашае біскуп Аляксандр Кашкевіч.*

**Кінга Красіцкая**

## Рэліквіі св. Фаўстыны прыбылі ў Вярэйкі

*У нядзелю Божай Міласэрнасці ў парафію Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ўрачыста ўнеслі рэліквіі, якія прыбылі з санктуарыя Божай Міласэрнасці ў Лагеўніках. З дазволу генеральнай сястры яны застануцца ў парафіі, дзе актыўна развіваецца рух Божай Міласэрнасці.*

Пасля працэсіі адбылася святая Імша, якую разам з пробашчам цэлебраваў кс. Павел Астукевіч. У гаміліі святар зачытаў фрагменты з "Дзённіка" святой Фаўстыны, нагадаў прысутным яе жыццё і дзейнасць і звярнуў увагу на тое, што вернікі атрымліваюць вялікі гонар маліцца да яе, ушаноўваючы рэліквіі ў сваёй парафіі.



Цяпер падчас набажэнстваў, што будуць адпраўляцца ў Гадзіну міласэрнасці, кожны, хто знаходзіцца ў стане ласкі, зможа атрымаць адпуст.

## Акцыя "За жыццё" прайшла ў Гродне

*У мерапрыемстве, якое адбылося ў Гарадской клінічнай бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі, прынялі ўдзел псіхолагі, акушэры-гінеколагі, святары каталіцкага Касцёла і праваслаўнай Царквы.*

Звяртаючыся да прысутных, кс. Генрых Яблоньскі назваў вельмі сумным тое, што мы вымушаны казаць пра аборону дзяцей, ды прытым ад уласных маці. Святар адзначыў, што запаведзь "Не забівай" людзям дало не духавенства, а сам Бог. Маці памыляюцца, калі кажуць: "Гэта маё дзіця – хачу нараджаю, хачу забіваю". Кс. Генрых дадаў, што дзіця – гэта заўсёды блаславенне ад Пана, Божы дар, яно належыць Богу.

Рашэннем акушэраў-гінеколагаў Гарадской клінічнай бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі г. Гродна на час рэспубліканскага конкурсу акцыі "За жыццё" з 1 красавіка па 1 чэрвеня 2016 г. часова спынена правядзенне абортаў.



## Дзень "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі прайшоў у Астраўцы

*У яго правядзенні актыўны ўдзел прынялі валанцёры дабрачыннага каталіцкага таварыства "Карытас" у Гродне.*

Увесь дзень валанцёры стаялі са скарбонкамі і распавядалі ўсім жадаючым пра праекты "Карытас-Гродна". Падчас святых Імшаў можна было даведацца пра дзейнасць "Карытас" у Гродне і ва ўсёй Беларусі.

Дзень "Карытас" – ужо традыцыйнае мерапрыемства, дзякуючы якому ўсё больш вернікаў з розных парафій знаёміцца з дабрачыннай дзейнасцю арганізацыі, формамі дапамогі патрабуючым і валанцёрскім рухам.




## "Надзея ў Божай міласэрнасці"

*Канцэрт пад такой назвай прайшоў у смаргонскім араторыі. У ім прынялі ўдзел розныя парафіяльныя групы.*

Мерапрыемства, арганізаванае ў Юбілейны год міласэрнасці, пачалося словамі святой Фаўстыны Кавальскай: "О, неспасцігальная і бязмежная міласэрнасць Божая, хто цябе годна праславіць і ўзвялічыць зможа?". Усе ўдзельнікі канцэрта, пачынаючы ад самых малодшых, стараліся праслаўляць Бога рознымі спосабамі: вершамі, спевамі, танцамі, тэатральнымі пастаноўкамі.

Напрыканцы свята аніматары і кандыдаты падрыхтавалі невялікую тэатральную пастаноўку, у якой праз танец былі паказаны асноўныя моманты жыцця Езуса Хрыста.



## Літургічная служба алтара ў Шчучыне папоўнілася на 8 новых міністрантаў

*Пачынаючы з верасня мінулага года, кандыдаты ў міністранты рыхтаваліся да гэтай урачыстай падзеі праз фармацыйныя сустрэчы, тэарэтычныя і практычныя заняткі, інтэграцыйныя выезды з літургічнай службай.*

Напярэдадні ўрачыстасці для васьмі будучых міністрантаў быў арганізаваны дзень духоўных сустрэч, падчас якіх хлопцы склалі 10 запаведзяў добрай міністранцкай паслугі і паабяцалі іх выконваць. Урачыстасць прынятця ў літургічную службу алтара ўзначаліў пробашч парафіі а. Вітольд Пяцельчыц SP.

Падобнае мерапрыемства прайшло і ў капліцы ў Барташах (вёска недалёка ад Шчучына, у якую кожную нядзелю з сакраментальнай паслугай прыязджаюць айцы). У літургічную службу алтара было прынята восем кандыдатаў, якія ў бліжэйшыя месяцы будуць рыхтавацца да міністранцтва.



## "Радасць Уваскрасення"

*Пад такой назвай у Доме культуры ў Навагрудку адбылася канцэртна-віншавальная праграма. У яе межах была арганізавана выстава работ майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Госці маглі таксама пачаставаца пасхальнымі прысмакамі.*

Падчас канцэртнай праграмы, якую падрыхтавалі вернікі парафіі св. Міхала Арханёла, з песнямі і вершамі выступілі вучні нядзельнай школы. Яны прадставілі кароткую пантаміму "Бездань і ісціна".

Не абыйшлося свята без узгадвання знакамітага земляка Адама Міцкевіча. Была паказана кароткая лірычная пастаноўка "Развітальны паланэз для Адама і Марылі" ў выкананні калектыва "Свіцязянка". У свяце таксама прынялі ўдзел госці з Ліды.



## Семінарысты наведалі Радунскі дзіцячы дом-інтэрнат

*Пад кіраўніцтвам рэктара і прэфекта навучэнцы Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне падрыхтавалі для дзяцей забаўляльную праграму.*

Быў арганізаваны канцэрт семінарыйнага гурта "AVE", конкурсы, за ўдзел у якіх можна было атрымаць узнагароду, а таксама катэхеза.

На заканчэнне праграмы адбыўся футбольны матч паміж камандамі дома-інтэрната і семінарыі. Карыстаючыся магчымасцю, семінарысты запрасілі выхаванцаў дома-інтэрната да сябе, таму наступная сустрэча адбудзецца ў сценах Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.



## АНОНСЫ

### СУСТРЭЧА АПОСТАЛЬСТВА ДАПАМОГІ ЧЫСЦОВЫМ ДУШАМ АДБУДЗЕЦЦА Ў ЛІДЗЕ

***Сустрэча пройдзе 21 красавіка ў касцёле Узвышэння Святога Крыжа.***

*Дыяцэзіяльная курыя запрашае да ўдзелу асобных вернікаў і групы, якія моляцца ў інтэнцыі чысцовых душ. У межах сустрэчы адбудзецца святая Імша, сакрамант пакаяння, канферэнцыя "Памерлыя таксама маюць патрэбу ў міласэрнасці", Вяночак да Божай міласэрнасці. Будзе прадстаўлена магчымасць афіцыйнага ўступлення ў таварыства Апостальства дапамогі чысцовым душам.*

***Усе пытанні, звязаныя з удзелам у сустрэчы, скіроўваць да кс. Віктара Субеля, дэкана Іўеўскага дэканата і дыяцэзіяльнага мадэратара таварыства Апостальства дапамогі чысцовым душам (тэл. 8-029-628-97-16, e-mail x.victor@list.ru).***

### АГУЛЬНАДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ З'ЕЗД ПРАЦАЎНІКОЎ МЕДЫЦЫНСКАЙ СЛУЖБЫ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

***Сустрэча пройдзе 30 красавіка ў будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі па вул. Парыжскай Камуны, 1.***

*Запрашаем усіх прадстаўнікоў службы здароўя: урачоў, выкладчыкаў, фельчараў, медыцынскіх сясцёр, акушэраў, лабарантаў, працаўнікоў аптэк. Тэматыка сустрэчы звязана з Юбілейным годам Божай міласэрнасці і прысвечана ролі міласэрнасці і прабачэння ва ўзаемаадносінах медыцынскіх работнікаў з пацыентамі.*

***Запісацца на сустрэчу можна па тэлефоне (8-029) 589-49-94 – кс. Віталій.***

### НАВІНЫ З ВАТЫКАНА ПА-БЕЛАРУСКУ




*__Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM –__ у Гродна, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; __на 99,2 FM –__ у Брэсце і побач з ім.*
***Штодзённа ў 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.***
*__Штодзённа ў 20.00 і 6.20__ на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace".*
*__Кожную нядзелю ў 8.55__ на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### *Як часта Вы моліцеся Вяночкам да Божай міласэрнасці?*




*Перажываючы Год Божай міласэрнасці і Нядзелю міласэрнасці, мы спыталіся ў нашых чытачоў аб малітве да Божай міласэрнасці. Большасць рэспандэнтаў адказала, што адгаворвае Вяночак да Божай міласэрнасці кожны дзень. Вялікая група вернікаў адзначыла, што моліцца Вяночкам час ад часу. Ёсць таксама тыя, хто адгаворвае гэтую малітву толькі ў нядзелю.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



**Кс. Павел Салабуда**

*Вяночак да Божай міласэрнасці – гэта выключная малітва, таму што яе нам перадаў сам Пан Езус. Зусім не здзіўляе той факт, што дастаткова вялікая колькасць людзей адгаворвае гэтую малітву кожны дзень. У аб'яўленнях сястры Фаўстыне Пан Езус кажа: "Душы, якія будуць адгаворваць гэты Вяночак, Мая міласэрнасць ахіне пры жыцці і асабліва ў гадзіну смерці" (Дз. 754). Сёння Вяночак да Божай міласэрнасці з'яўляецца самай вядомай малітвай да Божай міласэрнасці, якой моляцца вернікі ўсяго каталіцкага Касцёла, выпрошваючы міласэрнасць для сябе і свету. Варта далучыцца да сусветнага апостальства міласэрнасці праз малітву Вяночкам. Заахвочваю таксама ўсіх, хто яшчэ не зразумеў вялікага духоўнага скарбу гэтай малітвы, пазнаёміцца з "Дзённікам" сястры Фаўстыны.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**19 красавіка 1947 г.** – кс. Марцін Пузырэўскі, *проб. Адэльск;*
**23 красавіка 1952 г.** – кс. Вацлаў Раманоўскі, *проб. Парэчча;*
**24 красавіка 1991 г.** – кс. Аляксандр Цярэшка, *проб. Воўпа;*
**24 красавіка 1992 г.** – кс. Ян Мяноўскі, *проб. Рагозніца;*
**24 красавіка 2005 г.** – а. Венанты Вількаш CSsR, *проб. Рэпля;*
**25 красавіка 1984 г.** – кс. Юзаф Мацееўскі, *проб. Заневічы;*
**28 красавіка 1944 г.** – кс. Ільдэфонс Бобіч, *проб. Іўе.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі: __grodnensis.by, catholic.by__*

"Пакліканыя быць прыладамі Божай міласэрнасці"



# XXIII ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДНІ МОЛАДЗІ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

## ЗАПРАШЭННЕ МОЛАДЗІ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ НА ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДНІ МОЛАДЗІ

*7–9 мая ў г. Масты*

**Дарагая Моладзь! Вучні школ і каледжаў, Студэнты прафесійных, сярэдне-спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў!**

**Запрашаю Вас на чарговыя Дыяцэзіяльныя дні моладзі. У гэтым годзе Вас будзе прымаць парафія ў г. Масты, а таксама памежныя з ёю парафіі (Рось, Воўпа, Мікелеўшчына, Правыя Масты). Галоўным дэвізам сустрэчы стануць словы "Пакліканыя быць прыладамі Божай міласэрнасці".**

**Заахвочваю Вас па меры магчымасці прыняць удзел у сёлетніх Дыяцэзіяльных днях моладзі, якія будуць часам падрыхтоўкі перад Сусветнымі днямі моладзі ў Кракаве.**

*Падрабязную інфармацыю наконт удзелу можна даведацца ў сваіх ксяндзоў пробашчаў і душпастараў моладзі.*

***На плённую падрыхтоўку і ўдзел у сустрэчы ўсім ад усяго сэрца блаславляю.***

*Аляксандр Кашкевіч,*
*Біскуп Гродзенскі*

## Разам будаваць хрысціянскую супольнасць



*Кс. Антоній Грэмза, галоўны арганізатар Дыяцэзіяльных дзён моладзі Гродзенскай дыяцэзіі*

**Сёння моладзь усё часцей "сустракаецца" ў віртуальным свеце.** Жывыя адносіны замяняюцца перасыланнем кароткіх паведамленняў, збіраннем лайкаў у сацыяльных сетках. Інтэрнет поўнасцю "зацягнуў" маладых людзей, вырваўшы іх з сапраўднага свету. На Дыяцэзіяльных днях моладзі ствараюцца ўмовы рэальнай сустрэчы, якой так часта не хапае для спаткання з Езусам і іншым чалавекам.

**На Дыяцэзіяльныя дні моладзі збіраецца лепшая моладзь.** Сустрэча прызначана для духоўнай інтэграцыі маладых людзей. Яны могуць пабачыцца з даўнімі сябрамі і пазнаёміцца з новымі. Пасля такіх спатканняў сэрца поўніцца ўдзячнасцю Богу за тое, што Ён збірае маладых людзей разам у адну вялікую хрысціянскую сям'ю.

**Кожная сустрэча звязана з канкрэтнай тэмай.** Яна адносіцца да жыцця паўсядзённага і лакальнага Касцёла. З нагоды Года міласэрнасці ў каталіцкім Касцёле, а таксама 25-годдзя Гродзенскай дыяцэзіі моладзь паклікана праз учынкі міласэрнасці для душы і цела пацвердзіць тое, што хрысціянская любоў – гэта не прыгожыя словы і абяцанні, а канкрэтныя ўчынкі любові. Удзельнікі спаткання маюць магчымасць выбраць адзін з учынкаў і практыкавацца ў ім у сваім штодзённым жыцці.

**"Пакліканыя быць прыладамі Божай міласэрнасці".** Менавіта так гучыць дэвіз сёлетняй сустрэчы. Хочацца данесці да ўдзельнікаў, што кожны з'яўляецца інструментам у руках Бога. Айцец паклікаў нас – сваіх дзяцей – быць апосталамі Божай міласэрнасці, а не чакаць, каб добрыя справы здзяйсняліся кімсьці іншым. Міласэрнасць здольны чыніць кожны. Трэба толькі абудзіць унутранае жаданне і заручыцца падтрымкай Пана.

**XXIII Дыяцэзіяльныя дні моладзі пройдуць у Мастах.** Мясцовая парафія паўстала адносна нядаўна. На яе тэрыторыі пражывае шмат моладзі. Было б добра, каб як мага больш маладых людзей з гэтай мясцовасці прыняло ўдзел у спатканні і тым самым паглыбіла сваю сувязь з Касцёлам.

**Дні моладзі стануць выклікам для вернікаў.** Перш за ўсё, для парафіян у Мастах, якія прымаюць моладзь дыяцэзіі, а таксама для тых, хто рыхтуе начлегі ў Росі, Воўпе, Мікелеўшчыне і Правых Мастах. Людзям прадстаўляецца выдатная магчымасць аказаць хрысціянскую гасціннасць удзельнікам моладзевага спаткання, адначасова здзейсніўшы ўчынак міласэрнасці.

**Традыцыйныя госці – біскупы дыяцэзіі.** А таксама ўсе тыя, хто праяўляць сваю зацікаўленасць да праграмы сустрэчы.

**Кожны ўдзельнік пакліканы Богам.** Калі малады чалавек трапляе на Дыяцэзіяльныя дні моладзі, значыць, Бог хача, каб ён пакінуў свае заняткі і выбраў тое, што яму падказвае сэрца. Таму ўдзельнік проста абавязаны па-максімуму скарыстаць з гэтага спаткання.

**Май – цудоўная пара.** Час перад заканчэннем школьнага навучальнага года і экзаменацыйнай сесіяй у студэнтаў. Маладыя людзі могуць адпачыць і пабыць разам, каб пазней з новымі сіламі прысвяціць больш увагі навуцы і экзаменам.

**Дні моладзі – пэўны экзамен на маладосць.** Трэба быць гатовымі да розных перашкод, падрыхтаванымі да сціплых умоў пражывання. Заахвочваю моладзь прыязджаць з пазітыўным настроем і шчырым жаданнем будаваць з іншымі радасную хрысціянскую атмасферу спаткання.

**Да сустрэчы, дарагая Моладзь!**

## ПРАГРАМА ДДМ'2016

### СУБОТА, 7 МАЯ

- 15:00 Рэгістрацыя і расквятараванне
- 18:00 Прывітанне ўдзельнікаў і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту
- 18:30 Святая Імша
- 20:00 Вячэра *(пры касцёле)*
- 20:40 Канферэнцыя "Шчаслівыя міласэрныя, бо яны міласэрнасць спазнаюць"
- 21:10 Канцэрт
- 22:15 Вячэрняя малітва і блаславленне, раз'езд па вызначаных парафіях на начлег

### НЯДЗЕЛЯ, 8 МАЯ

- 9:00 Ранішнія малітвы ў парафіях
- 10:30 Катэхезы ў катэхезах *(праца у групах на тэму учынкаў міласэрнасці для душы і цела)*
- 12:00 Падвядзенне вынікаў катэхез
- 13:00 Святая Імша
- 14:30 Абед
- 15:30 Вяночак да Божай міласэрнасці
- 15:45 Прэзентацыя моладзевых груп і размова з цікавымі людзьмі
- 18:00 Вячэра *(пры касцёле)*
- 19:30 Эўхарыстычная адарацыя і сакрамант пакуты
- 21:00 Канцэрт
- 22:15 Вячэрняя малітва і блаславленне, раз'езд па вызначаных парафіях на начлег

### ПАНЯДЗЕЛАК, 9 МАЯ

- 9:00 Ранішнія малітвы ў парафіях
- 10:30 Святая Імша
- 11:30 Канцэрт праслаўлення, заканчэнне

**Умовы ўдзелу:**
- узрост ад 16 гадоў *(для малодшых неабходны старэйшы апякун)*;
- рэлігійны намер;
- спальнік і дыванік;
- уласныя кубак, лыжка і міска;
- сродкі гігіены і рэкамендаваныя лякарствы;
- асабісты ўзнос **30 000 бел. руб.** *(існуе магчымасць звальнення з узносу)*.

**Паведаміць аб удзеле групы неабходна да 30 красавіка:**

**у Мастах:** *кс. Віктара Ханько* **(8-029-586-39-16),**
**у Гродне:** *кс. Антонія Грэмзу* **(8-0152-74-00-73, 8-029-632-43-73,**
**e-mail: gremantos@gmail.com),**
**у Ваўкавыску:** *кс. Дзмірыя Леўчыка* **(8-029-285-83-50).**

**Прыезд і ад'езд:** уласным транспартам, аўтобусамі і цягніком.

***Пробашч парафіі павінен вызначыць адказнага за групу*** *(нумар маб. тэл. і ўзрост),* ***а таксама напісаць дакладны спіс удзельнікаў*** *(імя, прозвішча, узрост, населены пункт).*

***Падчас удзелу ў сустрэчы будзе магчымасць паказаць прэзентацыю сваёй групы*** *(5–7 хвілін).* ***Тэма прэзентацыі – "Мы прылады Божай міласэрнасці".***




## Малітва за моладзь

**Ойча наш, клапоцячыся пра моладзь, мы просім Цябе аб асаблівых ласках для яе. Дапамажы маладым людзям знайсці праўду, якой яны прагнуць, і ўчыні так, каб іх не сапсавалі падман і крывадушнасць свету. Захавай іх адчувальныя душы ад зла і амаральнасці, якія забіраюць сэнс жыцця і надзею, а таксама аддаляюць ад Цябе, Божа – адзінага дабра і нашай мэты. Пакажы ім, Ойча, як навукай і працай падрыхтавацца да прыняцця абавязкаў, якія чакаюць іх у жыцці. Няхай яны цешацца прыгажосцю свету і сваёй любоўю, няхай давяраюць бацькам і выхавальнікам. У Тваім Сыне, а нашым Пану Езусе Хрысце няхай знаходзяць дарогу, праўду і жыццё.** *Амэн.*

# Яблык



*Кожную раніцу багаты кароль збіраў даніну ў сваіх падданых. Ён сядаў на вялізным троне, усцеленым чырвонай матэрыяй, у руку браў залаты скіпітр, а на галаву ўскладаў карону, аздобленую каштоўнымі камянямі. Яму ўсяго хапала. У яго была цудоўная сям’я – жонка і дзесяць дзяцей, якім належалі ўсе багацці, вялікае каралеўства, шмат мудрых дарадцаў, войска і, што самае галоўнае, не было ніякіх ворагаў. Таму ён мог жыць спакойна і без страху. Здавалася б, кароль павінен быць шчаслівы, але так не было. Яму проста стала страшна сумна. Кароль спадзяваўся, што, можа, урэшце рэшт здарыцца штосьці, што зменіць яго манатоннае жыццё.*

*Сярод розных падданых, якія штодзённа з’яўляліся ў двары, быў адзін жабрак. Ён прыносіў каралю яблык, а потым адыходзіў гэтак жа ціха, як і ўваходзіў. Кароль, які прывык атрымліваць шыкоўныя дары, прымаў падарунак з пэўнай іроніяй і паблажлівасцю. Калі толькі жабрак адварочваўся, кароль здзекаваўся з яго, а разам з ім – і ўвесь двор. Нават каралеўскія дзеці высмейвалі бедняка, за што мудрая нянька іх кожны раз папракала. Жабрак адчуваў, што ім пагарджаюць, але зусім не адчайваўся з-за гэтага. Ён вяртаўся кожны дзень, каб перадаць у каралеўскія далоні чарговы дар.*

*Кароль прымаў яго як заўсёды. Яблык адкладваў у падрыхтаваны для гэтага выпадку кошык, што стаяў побач з тронам. У ім былі ўсе яблыкі, якія цярпліва і пакорна прыносіў жабрак.*

*Аднойчы любімая каралеўская малпа ўзяла адзін яблык і ўкусіла яго, а затым, выплюнуўшы, кінула пад ногі каралю. Манарх анямеў ад здзіўлення, калі заўважыў унутры яблыка бліскучую жамчужыну. Ён адразу ж загадаў, каб разрэзалі ўсе яблыкі з кошыка. У кожным з іх знаходзілася такая ж жамчужына. Уражаны кароль адразу ж загадаў паклікаць да сябе жабрака і пачаў яго распытваць.*

***– Я прыносіў табе гэтыя дары, – адказаў чалавек, – каб ты зразумеў, што кожны дзень цябе адорваюць незвычайным падарункам, якога ты нават не заўважаеш.***



*Чаму кароль пагарджаў падарункамі жабрака і смяяўся з яго?*
*Чаму аднойчы манарх усё ж пачаў цаніць яблыкі жабрака?*
*Ці не падобны мы часам да гэтага караля?*
*Хто нагадвае ціхага, цярплівага і пакорнага чалавека?*
*Дзе ўтоены найпрыгажэйшы дар, які нам пакінуў Хрыстос?*
*Што гэта за дар?*

***Падрыхтавала Кінга Красіцкая***

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Павайбу, Юрыю Марціновічу і Юрыю Свіслоцкаму**
з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Маці Божай, мноства сіл, цярплівасці, нястомнага запалу ў душпастарскай паслузе і моцнага здароўя. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за ўсе намаганні, клопат і працу, якія Вы прыкладаеце, каб наблізіць нас да Айца.
*Вернікі з пар. Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу**
з нагоды Імянін складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень праходзіць у радасці, сілы і запал да абвяшчэння Божага слова ніколі Вас не пакідаюць, а побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі. Няхай Бог штодзённа адорвае Вас усімі сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца.
*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Новага Двара*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**
з нагоды Імянін перасылаем свае сардэчныя пажаданні і словы ўдзячнасці за спагадлівасць і дабрыню. Няхай Бог дадае Вам моцы, Дух Святы надзяляе мудрасцю і спакоем, Езус служыць прыкладам на святарскім шляху, а Маці Божая Нястомнай Дапамогі заўсёды засцерагае. Жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці, мужнасці, добрых і спагадлівых вернікаў. Няхай Вас заўсёды засцерагае святы Юрый!
Толькі ружы хай усцілаюць Вашага жыцця шляхі.
З Днём Анёла! З Днём Патрона, Святар наш дарагі!
*Парафіяне з касц. Адшукання Святога Крыжа ў Жырмунах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ёдзіку**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя віншаванні. Жадаем, каб на працягу ўсяго свайго жыцця Вы ішлі з даверам і надзеяй да Бога, а ўсё, што Вы робіце, здзяйснялі з юначым запалам. Таксама жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень, дароў Святога Духа, моцнага здароўя, душэўнага супакою, усмешкі і радасці. Няхай прыклад Вашай высокай культуры, інтэлегентнасці, міласэрнасці і шчырай службы Богу будзе ўзорам для шматлікіх пакліканняў. Дзякуем за працу і старанні ў аднаўленні нашага касцёла.
*З павагай і ўдзячнасцю парафіяне з Цудзенішкаў*

**Дарагая Сястра Агнешка!**
З нагоды Тваёго Дня нараджэння перасылаем шмат сардэчных пажаданняў здароўя, радасці, душэўнага супакою і добрых людзей побач. Няхай Пан Езус адорвае Цябе блаславеннем і ўсімі ласкамі на доўгія гады і напаўняе святлом і сіламі. Дзякуем за прыгожы спеў за арганам і незвычайнае дэкараванне нашага касцёла. Жадаем апекі Маці Божай, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог, які паклікаў Цябе да служэння ў нашай парафіі, узнагародзіць кожную Тваю працу.
*Удзячныя вернікі з пар. св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Саковічу**
з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе шчаслівым і блаславёным, а праца на ніве Пана прыносіць багаты плён. Шчасці Божа!
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ясевічу**
з нагоды Імянін перасылаем шчырыя віншаванні і словы падзякі. Дзякуем за дабрыню і зычлівасць, адкрытае сэрца і спагадлівасць, якую Вы дорыце людзям. Няхай Маці Божая, святы Заступнік і Анёл-ахоўнік апекуюцца Вамі і дапамагаюць у выкананні душпастарскай паслугі. Мы ўдзячныя Богу за тое, што Ён паслаў нам Вас.
*З малітвай Апостальства “Маргарытка” і моладзь з пар. св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Дарагому сыну Ксяндзу Віталію Сідорку**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага блаславення на кожны дзень, няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка. Моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця, душэўнага супакою, радасці ад выконваемай паслугі, стойкасці і моцы на нялёгкім святарскім шляху.
*Бацькі*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**
ў Дзень імянін жадаем як мага больш здароўя, душэўнага супакою, стойкасці і нястомнага запалу ў выкананні святарскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Маці разам са сваім Сынам заўсёды маюць Вас у сваёй апецы і спадарожнічаюць Вам на працягу ўсяго жыцця, каб заўсёды з вялікай радасцю Вы служылі Богу і людзям.
*“Маргарытка” і вернікі з пар. Беняконі*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Сядлецкаму**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых дароў і моцы Святога Духа, добрых і шчырых людзей на святарскім шляху, здзяйснення мар, здароўя, шчасця, мноства сіл у выкананні Божай волі, радасці, надзеі і аптымізму.
*Парафіяне з в. Навіянка і Пашэлі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Барысевічу**
з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, жыццё – доўгім, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Таксама жадаем Божай дапамогі на нялёгкім святарскім шляху, апекі Панны Марыі на кожны дзень, а побач – добразычлівых людзей.
*Вернікі з пар. Наваельня*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Грыцко**
з нагоды Імянін прагнем скласці сардэчныя пажаданні. Жадаем Божага блаславення на кожны дзень жыцця і душпастарскага служэння, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай і святога Заступніка, а таксама моцнага здароўя, радасці і аптымізму. Шчасці Божа!
*Вернікі з в. Новы Двор*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Федуку**
з нагоды Імянін і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, вытрымкі на доўгія гады пастарскага служэння, апекі святога Юрыя. Няхай добры Бог адорыць Вас усімі неабходнымі ласкамі, а міласэрная Маці Божая клапоціцца пра Вас і напаўняе супакоем.
*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з касц. святых Пятра і Паўла, Ражанка*

**Дарагому Ксяндзу Валянціну Хведуку**
з нагоды 40-га Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага спакою, радасці, шматлікіх Божых ласкаў, зычлівых людзей, якія заўсёды гатовы дапамагчы, а таксама сіл і стойкасці ў душпастарскай паслузе. Няхай Маці Божая апекуецца Табой ў кожную хвіліну жыцця, а добры Бог адорвае сваімі ласкамі і айцоўскім благаслаўленнем.
*Родныя*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Жэгарыну**
з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усяго найлепшага. Няхай усемагутны Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца. Няхай здароўе будзе моцным, радасць – штодзённай, сілы - бясконцымі, а сэрца далей застаецца добрым і адкрытым на Бога і людзей.
*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Навагрудка і Любчы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку**
з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастарскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае над Вамі і дапамагае годна перажываць кожны дзень. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а Ваша праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён.
*Вернікі з капл. Вердамічы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку**
з нагоды Дня нараджэння і Імянін ад усяго сэрца жадаем Божага блаславення. Няхай кожны дзень жыцця будзе напоўнены здароўем, шчасцем і радасцю. Няхай Святы Дух асвячае і вядзе Вас па Божых сцежках, а Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі. Дзякуем за цярплівасць і радасць, якую Вы нам прыносіце ў кожную нядзелю. Аддзяч, Божа!
*Вернікі, колы Жывога Ружанца з капл. Бортнікі*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**
з нагоды Імянін жадаем здароўя, мноства Божых ласкаў, радасці, шчасця, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай радасць і супакой жывуць у Вашым сэрцы і заўсёды хапае людской добразычлівасці.
*Вернікі з в. Вінцукі і ваколіц*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу**
ў дзень Імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя, радасці, шчасця, шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Пан Езус у сваёй міласэрнасці заўсёды чувае над Вамі і будзе Вашым Сябрам. Дары Святога Духа няхай асвячаюць гады Вашага жыцця і святарскі шлях. Жадаем добрых і справядлівых людзей побач, а святы Заступнік і Анёл-ахоўнік няхай абараняюць Вас у кожную хвіліну дня і ночы. Дзякуем Вам за Божае слова, павучальныя казанні і за прыемную ўсмешку на твары. Шчасці Божа!
*Клементына і вернікі з капл. у Таневічах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку**
з нагоды Дня нараджэння, Імянін і 11-й гадавіны святарскай паслугі ў нашай парафіі складаем букет віншаванняў. Ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя, радасці ад паклікання. Няхай стойкасць і супакой заўсёды Вам спадарожнічаюць. Ад усяго сэрца дзякуем за тое, што Вы з намі, за навуку, якую абвяшчаеце пры святым алтары, за шчырую службу Богу і людзям, за адкрытае вялікае сэрца. Няхай Маці Божая атуляе Вас плашчом мацярынскай апекі, святы Заступнік чувае над Вамі, а побач будуць добрыя і зычлівыя людзі.
*Удзячныя парафіяне з касц. Яна Хрысціцеля ў Мсцібаве*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Марціновічу**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою. Няхай радасць заўсёды Вам спадарожнічае, а цярплівасці і стойкасці хопіць на доўгія гады адданай душпастарскай працы. Няхай Вас заўсёды абмінае смутак, а жыццё плыве ў радасці. Няхай Маці Божая асвячае Ваш шлях промнямі сваёй міласэрнасці, а побач будуць добразычлівыя людзі. Дзякуем за ўсмешку, падтрымку і добрыя адносіны да нас, за працу і намаганні.
*Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**
з нагоды Дня нараджэння жадаем вялікай любові ад Бога, здароўя, апекі і блаславення Маці Божай, малітоўнай падтрымкі ад усіх, за каго Вы моліцеся. Няхай шлях служэння Богу і людзям будзе доўгім і шчодрым на Божыя ласкі, любоў і міласэрнасць. Няхай добры Бог дае Вам сілы, беражэ і дапамагае. Няхай на душы заўсёды будзе светла, лёгка і радасна, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі, сярод якіх Вашы адданыя парафіяне.
*Вернікі з пар. Раготна*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем шчырыя пажаданні моцнага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, цярплівасці і стойкасці ў духоўным выхаванні людзей рознага ўзросту. Няхай Усемагутны Бог узнагароджвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая штодзённа ахінае пяшчотнай, дабрынёй і блаславеннем. Няхай святы Заступнік узносіць свае малітвы за Вас да Бога, а Дух Святы шчодра адорвае сваімі дарамі, каб промні Божай міласэрнасці асвяцілі Ваш шлях і напоўнілі радасцю і шчасцем. Ад усяго сэрца дзякуем за мудрыя павучанні, Божае слова, чулае добрае сэрца, цудоўны прыклад веры і чалавечнасці, нястомны клопат і адданую працу на карысць нашай парафіі.
*Парафіяне з капл. Данілавічы*

**Паважанаму Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку**
з нагоды Дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, моцы і цярплівасці на святарскім шляху, нястомнага запалу веры і любові, нязгаснай надзеі і радасці, а таксама штодзённай апекі святога Заступніка і ўсіх дароў Божых на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі.
*Парафіяне з Квасоўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Цэзарыю Міху**
ў сувязі са смерцю бацькі перасылаем словы шчырага жалю і спачування. Няхай міласэрны Бог як мага хутчэй прыме яго ў сваё Валадарства.
***Парафіяне са Скідзеля***

**Паважанаму Ксяндзу Цэзарыю Міху**
ў сувязі са смерцю бацькі перасылаю свае шчырыя спачуванні. Няхай мая малітва будзе для Вас падтрымкай у гэтыя цяжкія хвіліны.
***Парафіянка Вераніка з касц. Унебаўзяцця НМП і св. Юзафа Рамесніка ў Скідзелі***

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1992; тыраж 5100; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная